

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Калі нехта мяркуе, што гэта дрэнна – халодныя кватэры і цёплая вада ў кранах толькі тры разы на тыдзень, – той глыбока памыляецца. Напрыклад, улады так ня лічаць. Наадварот, яны мяркуюць, што гатовыя да зімы. Ва ўсялякім выпадку, на паседжаньні аблвыканкаму М.Дражын толькі што заклікаў эканоміць паліва. Канешне, калі нашыя дарагія калгасы і саўгасы працягваюць па-ранейшаму паліць электрычнасьць, а пазыкі "вешаюцца" на ўсіх, то застаецца толькі эканоміць. Вёска завінавацілася ўжо 11 мільярдаў рублёў. Гэта 30% агульнай запазычанасьці перад энэргетыкамі. Між тым, як вядома, на вёску даўно ўжо махнулі рукой... Верагодна, сярод падрыхтоўчых мераў да зімы варта яшчэ прадугледзець, каб падвялічылі колькасьць ложкаў у шпіталях і супрацьпрастудных лекаў у аптэках.

На мінулым тыдні з паўсотні "Рафікаў"-таксовак сабралася каля Дома Саветаў замест таго, каб развозіць людзей. Але прычына была досыць паважная. Падатковая інспэкцыя запатрабавала, усе яны паставілі ў сабе касавыя апараты. Маўляў, падаткавікі клапоцяцца пра папаўненьне дзяржаўнага бюджэту і хочуць, каб таксісты ня ўтойвалі ад дзяржавы грошы. Але, як гэта часьцяком здараецца, замест справы выйшаў скандал. Тыя апараты, якія таксісты мусяць карыстаць, каштуюць 250 $, і вельмі ненадзейныя ў працы. Іх выкарыстаньне ня менш, чым удвая, падвялічыць час на абслугоўваньне пасажыраў. Калі хто бываў на Украіне, то ведае, што "маршруткі" там вырашылі праблему гарадзкога транспарту: ня вельмі дарагія, яны працуюць на больш высокім узроўні сэрвісу і камфорту, чым аўтобусы і тралейбусы. Але ў нашай падатковай інспэкцыі, як і ў дзяржавы ўвогуле, зусім іншыя развагі. На гэты раз таксістам далі трохмесячную адтэрміноўку.

Больш за 110 мільёнаў "заробкавых" рублёў завінаваціліся будаўнічыя арганізацыі сваім працоўным. Падобная практыка ў нас сталася ўжо нормай. Людзі прызвычаіліся бясплатна працаваць, а начальства прызвычаілася патрабаваць бясплатнай працы. Бо грошай няма ў бюджэце. Нагадаю, што будаўніцтва ў нас аднесенае да эканамічных "прыярытэтаў". Тут – альбо забясьпечваеш рост, альбо губляеш пасаду. Дарэчы, у нашай вобласьці, паводле статыстыкі, рост аб'ёмаў будаўніцтва самы высокі ў краіне. Але... пры гэтым узьведзена ўсяго 53% ад запляванага.

У пракуратуры прайшло паседжаньне калегіі, прысьвечанае абароне правоў спажыўцоў у сыстэме аблспажыўсаюзу. Вельмі злабадзённая тэма. У нярынкавай эканоміцы ўвогуле з правамі спажыўца мала хто лічыцца. Хто бываў у вясковых крамах, хто сутыкаўся з абвесамі і грубасьцю прадаўцоў, хто бачыў умовы, у якіх захоўваецца тавар, той ведае, пра што ідзе гаворка. Канешне, і спадары пракуроры ведаюць. Але арыштам ці звальненьнем аднаго-двух кіраўнікоў праблемы ня вырашыш. Вось калі пракуроры праўдзіва адкажуць на пытаньне, чаму падобнага няма ў краінах з дэмакратычнай формай кіраваньня, магчыма, першы крок да выздараўленьня і зробім.

Міхаіл Красноў сустракаўся з настаўнікамі. Праўда, з так званымі "лепшымі" настаўнікамі. Гэта значыць з тымі, хто абласканы ўладаю, не выступае з крытыкаю. Затрымкі з заробкамі на такой гутарцы называюць "часовымі складанасьцямі", а жабрацкія заробкі і дрэнныя ўмовы працы пэдагогаў альбо ня ўзгадваюцца, альбо неяк умела абыходзяцца. Такім чынам дэманструецца "разуменьне складанай сытуацыі". Што чарговым разам і адбылося.

Жыхары Бабруйску адзначаюць адстаўку свайго "чырвонага мэра". Такую мянушку Уладзімер Раманоўскі меў за адкрытую прыхільнасьць да камуністычных сымбаляў і бальшавіцкай ідэалёгіі. Былы старшыня гарвыканкаму праславіўся забаронай катацца на ролікавых дошках па плошчы Леніна (бо гэта ж сьвятое) і традыцыйным перасьледам апазыцыі. Улада аддзячыла Раманоўскаму граматай. Ну, а што памяць народная захавае аб ім, і ці захавае што – сказаць цяжка.

Капітан з асіповіцкай вайсковай часткі, добра напіўшыся, нарабіў справаў у мясцовай кавярні. Ён не захацеў сыходзіць, калі тая ўжо зачынялася. Спачатку аблаяў афіцыянтку, а потым ня толькі абліў нецэнзуршчынай міліцэйскі нарад, ды яшчэ і пабіўся зь ім. Суцішылі яго толькі гумавымі дубінкамі і кайданкамі. Зараз капітан "на губе", ім займаецца гарнізонная пракуратура. А мы ня ў першы раз толькі ўздыхаем, гледзячы на тое, ува што пераўтвараецца нашае войска...

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

## Загартаваны і падрыхтаваны

***Днямі ў Вашынгтоне, у кабінэце Бэнджаміна Франкліна ў Дзяржаўным дэпартамэнце ЗША, адбылася цырымонія прывядзеньня да прысягі новага амбасадара Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі Майкла Козака.***

Цырымонія была вельмі ўрачыстай. Падчас яе з прамовай выступіў намесьнік дзяржаўнага сакратара ЗША Строўб Тэлбат, які выказаў сваю павагу да Майкла Козака, які за сваю 20-гадовую кар'еру зрабіў шмат для ўсталяваньня дэмакратыі, працуючы ў прадстаўніцтвах Злучаных Штатаў Амэрыкі ў розных краінах сьвету. Тэлбат таксама зазначыў, што калі ўзьнікае нейкі крызыс, нейкая праблема, Дэпартамэнт звычайна зьвяртаецца да Майкла Козака. Гэта сьведчыць пра тое, што цяпер ЗША выказваюць сваю сур'ёзную заклапочанасьць сытуацыяй у Беларусі, бо, як сказаў сп. Тэлбат, "беларускі народ варты лепшага XXI стагодзьдзя, што беларуская нацыя – як ніякая іншая – вартая дэмакратыі і незалежнасьці".

Спадар Козак паабяцаў, што ён будзе рабіць усё магчымае, каб падтрымліваць тых, хто працуе на незалежнасьць і дэмакратыю ў Беларусі. Ён таксама нагадаў прысутным вядомы ў Беларусі лёзунг "За нашу і вашу волю", які яднае людзей добрай волі ва ўсім сьвеце.

Заўвагі С.Тэлбата і М.Козака ў дачыненьні да рэжыму Лукашэнкі былі вельмі жорсткімі. Яны далі зразумець прысутным на мерапрыемстве прадстаўнікам амбасады Беларусі ў ЗША, што палітыка беларускіх уладаў непрымальная ня толькі для Злучаных Штатаў, але і для міжнароднага супольніцтва, і што ЗША стаяць на пазыцыі міжнародных стандартаў дэмакратыі і свабоды.

Было прыкметна, што Майкл Козак падрыхтаваны да працы ў Беларусі. Як сустрэне новага амэрыканскага пасланьніка Беларусь, стане вядома ў хуткім часе...

*Ірына КУРАПАТКІНА, Вашынгтон*

ПАГЛЯДАЮЧЫ Ў ТЭЛЕВІЗАР

## Некаторыя прапановы на тэму падсьвядомасьці

Два месяцы таму ў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі зьмянілася кіраўніцтва. Старшынём быў прызначаны ідэалягічны намесьнік старшыні Менгарвыканкаму, а раней сакратар па ідэалёгіі Менскага гаркаму КПБ Віктар Чыкін. Вартыя яго й намесьнікі – Аляксандар Зімоўскі з "Рэзанансу" і Ягор Рыбакоў з магілёўскага тэлерадыёаб'яднаньня. Натуральна, што прызначэнцы адразу пачалі выпрацоўваць новую канцэпцыю разьвіцьця Беларускага тэлебачаньня.

Даволі хутка ў іхных кабінэтах быў распрацаваны цікавы дакумэнт зь нецікавым назовам – "Некаторыя прапановы па ўдасканаленьні работы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі".

Тут ёсьць разьдзел "Стратэгічныя мэты". Сярод іх пазначана такая: "Фармаваньне ў міжнароднай грамадзкасьці вобразу Беларусі як сучаснай дэмакратычнай дзяржавы з народнай гаспадаркай, якая дынамічна разьвіваецца, зь цьвёрдаю легітымнай дзяржаўнай уладай, эфэктыўнай грамадзянскай супольнасьцю, стабільнай сучаснай сацыяльна-эканамічнай сыстэмай, а таксама зь цьвёрдай прававой сыстэмай, якая забясьпечвае правы, свабоды й бясьпеку грамадзянаў".

Асноўная роля ў стварэньні такога іміджу адводзіцца інфармацыйна-аналітычнаму блёку БТ. Гэта – выпускі навінаў кожныя дзьве гадзіны, аналітычныя праграмы "Рэзананс", "Панарама", "Падзея", "Палітычныя дыялёгі". У канцэпцыі чорным па белым зафіксавана: "Усе праграмы нясуць дакладную палітычную скіраванасьць".

Ва ўсім сьвеце інфармацыйныя праграмы – гэта аб'ектыўныя навіны, дакладныя факты. На БТ навіны – падборка паведамленьняў, папярэдне палітычна апрацаваных й ідэалягічна вытрыманых. Астатнія перадачы ня будуць выключэньнем, бо па ўсяму дакумэнту раскіданыя словы пра "масіраваныя палітычныя кампаніі", "наступальную прапаганду", "інфармацыйную бясьпеку", "актыўную контарпрапаганду". Ёсьць і такі палохаючы, хаця й незразумелы пасаж, як "візуальны й падсьвядомы кантакт з гледачом, які прадугледжвае ў пэрспэктыве як масавую, так і мэтанакіраваную інтэрактыўнасьць палітычных праграмаў".

Як жа трэба не паважаць сваіх гледачоў, каб замест паказу жыцьця на экране, безсаромна пічкаць іх "інтэрактыўнай палітызаванасьцю і прапагандай", ды яшчэ на падсьвядомым узроўні...

*Іна СТУДЗІНСКАЯ*

## Паміж двума гумарыстычнымі праграмамі

...Вечарам 29 верасьня, перарабіўшы хатнія справы, падсеў да тэлевізара. Выбраў на РТР гумарыстычную праграму "Аншлаг". Засьпеў толькі канец нейкага сюжэту, як пачалася рэкляма. Добра, што ёсьць такое прыстасаваньне як дыстанцыйны пульт: скокнуў на іншы канал – аднак і там патрапіў на рэкляму. Такім чынам даўшоў да БТ. А там... самы наш Галоўны Выступоўца па ўсіх пытаньнях і праблемах. Услухаўся крыху – і зусім забыўся на паралельную гумарыстычную перадачу. Які там гумар? Вось тут гумар дык гумар – а ўсё з сур'ёзным выглядам, патасам, зырканьнем строгімі вачыма па напалоханай перапоўненай залі... Праўда, прысутныя на прадстаўленьні не сьмяяліся, гэта можна дазволіць сабе толькі ў маім бясьпечным становішчы тэлегледача. Вось я і адвёў, як гаворыцца, душу.

Ну, скажыце, ці ж гэта не было сьмешна – слухаць пра тое, што Эўропа з заміраньнем сэрца чакае, калі СНД на чале зь Беларусьсю пачне нарэшце інтэгравацца, каб пайсьці гэтым жа шляхам? Ці можна было бязь сьмеху пачуць пра тое, што валавы прадукт краіны дасягнуў 90 адсоткаў ад таго, што было ў 91-м годзе? Нарэшце, як было не расьсьмяяцца, чуючы пра тое, што маючыя адбыцца выбары будуць чэснымі і справядлівымі як ніколі раней?..

Чаму ўсё гэта было мне сьмешным? Тлумачу па парадку. Да сваёй, а зусім ня нашай інтэграцыі, Эўропа прайшла шлях выроўніваньня эканамічнага ўзроўню і аднолькавага разуменьня правоў чалавека і дэмакратыі. Дастаткова толькі было Аўстрыі ўключыць у склад ураду нэафашыста, як ёй тут жа адмовілі ад эўрапейскага двара. Цяпер нагадайце сабе самі, хто ўваходзіць у нашае СНГ (сапраўды руская абрэвіятура гучыць лепш). І ўзгадайце ўсе свары і хітрыкі, непаразуменьні й нестыкоўкі, якімі суправаджаецца гісторыя стварэньня гэтай "еднасьці". Гэта адбываецца ад крыўды на Расею (законнай, дарэчы), ад уласнай беднасьці, ад амбіцыяў кіраўнікоў, ад рознасьці стану і ўзроўню разьвіцьця... Можа, Эўропа і сапраўды чакае, чым усё гэта завершыцца. Але чакае ўсё ж зь іншымі пачуцьцямі, чым спадзевам на добрае.

Цяпер асабліва сьмешны кавалак. Пра эканамічныя посьпехі. Мой заробак у згаданым 91-м годзе важыў блізу 300 даляраў. Цяпер, а працую я на тым жа прадпрыемстве й на тым жа месцы, заробак мой... 65 даляраў. А якія сёньня цэны, камунальныя паслугі? А колькі каштуе адзеньне, абутак? А ці былі калі раней вядомыя на вытворчасьці "адпачынкі за свой кошт", якіх цяпер штомесяц набягае па некалькі дзён? Не хачу сказаць тым самым, што трэба вяртацца ў "сьветлае мінулае". Таму яно й ляснула, што было падманам, стаяла на хлусьні. Але ж час ужо гэта зразумець і пачаць будаваць новае жыцьцё, як гэта робяць хаця б палякі альбо балтыйскія суседзі. І зразумець гэта трэба найперш таму, хто нястомна забаўляе народ ня першы год.

Нарэшце, пра выбары. Ня буду цытаваць выказваньні наконт таго, што Захад праз апазыцыю (ці яна з дапамогай Захаду – не расчуў) толькі і марыць, як бы навязаць нашаму народу памылковы выбар. Гэта ўсё сьмешна нават дзіцяці. А вось запэўніваньні пра "чэсныя і справядлівыя" выбары варта, як гаворыцца, разгледзець асобна. Тыя, хто прымалі ўдзел у вылучэньні кандыдатаў па месцах сваёй працы, самі ведаюць, што гэта было. Ведаюць ці здагадваюцца многія й пра тое, як фармаваліся і прызначаліся выбарчыя камісіі. Ведаюць пра аднолькавасьць умоваў для кандыдатаў ад улады і "з вуліцы". Ведаюць пра перасьлед тых, хто заклікае да байкоту выбараў, хаця гэта дазволена выбарчым заканадаўствам, бо ёсьць формай удзелу грамадзянаў у выбарчай кампаніі. Ці ж ня сьмешна чуць пасьля гэтага пра "справядлівасьць"?..

На праграму "Аншлаг" у той вечар я спазьніўся, бо калі пераключыў – яе ўжо не было. Але амаль не шкадую. Пагляджу другім разам. Актуальны гумар можна, як я пераканаўся, знайсьці і на БТ.

*Л.ВІКТАРОВІЧ, рабочы*

